ДЕНЬ

НАША БУДУЧЫНЯ
Знаёмімся з 11 «П» класам гімназіі № 2
стар. 15

Штотыднёвік, выдаецца з красавіка 2001 года, выходзіць штосьцечвер, выдавец і заснавальнік ТДА «Дзеньпрэс»

19 – 25 лютага 2004 года | № 4 (176) | Кошт 500 рублёў

# Пенсіі па новаму графіку

## Пераўтварыліся для пенсіянераў у чатыры дні посту

**Пенсіі за люты жыхары Гродна і Гарадзенскай вобласці атрымліваюць са спазненнем на чатыры дні. Прычынай затрымкі, як высвятліў ДЕНЬ, з'яўляецца не традыцыйная адсутнасць грошай, а пераход на новы графік выплаты пенсій.**

### Па-дзяржаўнаму і па-чалавечы

– *Калі гаварыць выключна дзяржаўнай, юрыдычнай моваі, то ніякіх праблемаў няма. Пенсію за бягучы месяц, згодна з патрабаваннямі заканадаўства, мы павінны дастаўляць да 26-га чысла. Гэта будзе выканана і ніякай затрымкі не адбудзецца. Але калі гаварыць па-чалавечы, дык зразумела, што змена графіку, для людзей стане непрыемным сюрпрызам,* – гаворыць загадчыца аддзела сацыяльнай абароны насельніцтва Адміністрацыі Кастрычніцкага раёна Гродна **Таццяна Галавач**.

У Камітэце па працы і сацыяльнай абароне Гарадзенскага аблвыканкама карэспандэнту ДНЯ пацвердзілі, што прычынай затрымкі выплаты пенсій стала змена графіку правядзення выплат. Фармальнай падставай для гэтага стаўся ліст Міністэрства працы і сацыяльнай абароны 09-4/439 «Аб выплаце пенсій». Яшчэ год таму Міністэрства прыняло рашэнне пра перанос пачатку выплаты пенсій з першага на пятае. У Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны прызнаюць, што змена графіка выклікана недахопам сродкаў на выплату пенсій.

– *Рашэнне пра пераход было прынята ў 2002 годзе. Тады затрымкі пенсій былі дастаткова частай з'явай. Дзеля таго, каб неяк выправіць сітуацыю, Міністэрства прыняло рашэнне аб змене графіку выплаты пенсій. Мы ж практычна не маем рэзерваў, што сабралі, тое і выплацілі,* – тлумачыць начальнік аддзела пенсійнага заканадаўства Міністэрства працы і сацыяльнай абароны **Людміла Марчанка.** Паводле яе словаў, гэтыя першыя пяць дзён месяца з'яўляюцца такімі важнымі таму, што ў гэты час адбываецца выплата заробкаў, а адлічэнні ў фонд сацыяльнага страхавання ідуць менавіта з іх.

– *Гэтыя пару дзен і дазваляюць нам сабраць грошы, каб распачаць выплату пенсій,* – гаворыць Людміла Марчанка.

### Гродна – апошні!

На працягу года на Гарадзеншчыне выдаткоўваецца на выплату ўсіх відаў пенсій больш за 360 мільярдаў рублёў, з іх прыкладна 64 мільярды – гэта датацыя з рэспубліканскага бюджэта. Нягледзячы на датацыйнасць, Гарадзенская вобласць не спяшалася з пераходам на новы графік.

*Працяг на стар.3*



Фота Андрэя АДЛЯНІЦКАГА

*«Ведаеце, я нават некалькі разоў прытомнасць у крамах губляла. Як пачую пах каўбасы, то галава пачынае круціцца і – падаю...»*

## Таксіста забівалі малатком

**Андрэй Г., гарадзенскі таксіст фірмы «Радыё-таксі «Шатле», быў забіты ўначы 15 лютага. Раніцай яго цела было знойдзена на тыльным сядзенні машыны «Мазда-626» на вуліцы Фамічова. Паводле папярэдніх дадзеных, таксіст быў забіты малатком. Злачынца нанёс яму вялікую колькасць удараў іператварыў твар ахвяры ў крывавае месіва.**

Апошні раз жывым Андрэя Г. бачылі прыкладна а чацвёртай гадзіне раніцы, а праз тры гадзіны ягонае цела было знойдзена супрацоўнікамі міліцыі. У кішэнях забітага былі грошы, што, на думку следчых, выключае разбойны характар забойства. Паводле крыніцы ў праваахоўных органах, асноўнай версіяй, якая разглядаецца сёння, з'яўляецца забойства ў выніку бойкі з пасажырамі, якія адмовіліся заплаціць за рэйс.

Не ўсе згаджаюцца з такім падыходам. Прадстаўнік кіраўніцтва«Радыё-таксі «Шатле», які пажадаў захаваць сваю ананімнасць, лічыць, што забойства было загадзя запланавана.

– *Пра наяўнасць плана сведчыць тое, што забіты не быў выкліканы праз тэлефон, і тое, што забівалі малатком,*– сцвярджае прадстаўнік «Шатле».

На думку следчых, малаток належаў таксісту, які браў яго з сабою ў начныя рэйсы ў мэтах самаабароны.

Па факце забойства ўзбуджана крымінальная справа, даследаванне праводзіць пракуратура Кастрычніцкага раёна.

Як удалося высвятліць карэспандэнту ДНЯ, Андрэй Г. працаваў таксістам у фірме «Шатле» з ліпеня 2003 года. Да гэтага ён «таксаваў» у Польшчы.

Некалькі дзён да забойства, таксама ўначы, у раёне вуліцы Янкі Купалы адбылося нападзенне на іншага таксіста. Паводле дадзеных міліцыі, у гэтым выпадку злачынцы дзейнічалі па хуліганскіх матывах.

– *Нельга выключаць, што гэтыя два здарэнні звязаны, бо яны адбыліся прыкладна ў адным раёне,* – гаворыць начальнік аддзела інфармацыі і грамадскіх сувязяў УУС Гарадзенскага аблвыканкама **Георгі Сысой**.

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ**

### НАДВОР'Е Дня

**19 лютага** па Гродне пахмурна удзень -9, уначы-7, ападкі;

**20 лютага:** вобл., удзень-8, уначы-17, без ападкаў;

**21 лютага:** вобл., удзень -2, уначы -10, без ападкаў;

**22 лютага:** вобл., удзень 0, уначы -7, без ападкаў;

**23 лютага:** вобл., удзень -3, уначы -4, ападкі;

**24 лютага:** вобл., удзень 0, уначы -3, ападкі;

**25 лютага:** вобл., удзень -1, уначы -1, ападкі.

# Перажывем!

Расейскае ЗАТ «Транс Нафта», цалкам выканаўшы свае кантрактныя абавязкі перад ААТ «Белтрансгаз», пагразіла нам, што перакрые газавы кран. Гэта ўжо не першы ўльтыматум такога кшталту, які прад'яўляе нам усходні сусед. Аднак, перспектыва застацца без гарачай вады, не выклікала занепакоенасці прыдворных журналістаў у Беларусі. Усю сваю рэпарцёрскую ўвагу ў гэты дзень яны накіравалі на адкрыццё ў Менску чэмпіяната свету па біятлону і на небяспеку птушынага грыпу ў далёкай Японіі. Ды і напярэдадні, замест кампетэнтных і ўзважаных каментароў на тэму, якая без перабольшання хвалюе кожнага беларуса, па БТ бясконца круцілі нешта няўцямна-аптымістычнае з вуснаў самага галоўнага чыноўніка краіны:

– Перажывем!

– Не аддамо за бясцэнак народнае багацце!!

– Нас шантажуюць!!!

Пры гэтым наш самы галоўны чыноўнік ні словам не ўзгадаў пра сваю ролю ў стварэнні гэтай брыдкай і непрыстойнай сітуацыі для цэлай краіны. Але ж ці не Аляксандр Рыгоравіч яшчэ ўчора пешшу лез у Расею, на поўным сур'ёзе заяўляючы пра тое, што ён на каленях гатовы паўзці ў Маскву? Ці не сам беларускі прэзідэнт канчаткова «падсадзіў» эканоміку Беларусі на танную расейскую газавую «іглу», задушыў у зародку ініцыятывы па стварэнні энергетычнай альтэрнатывы?..

Гэтых пытанняў можна сёння паставіць не адзін дзесятак. Аднак аснова ў іх адна. І палягае яна на тым, што менавіта кіраўнік Беларусі сваімі няўмелымі і непрадуманымі дзеяннямі фактычна справакаваў нашых суседзяў на гвалт. Бо пацалункі Аляксандра Лукашэнкі з расейскімі партнёрамі і яго бясконцыя прызнанні ў каханні перад Крамлём не маглі не выклікаць пажадлівых пачуццяў у адказ. Натуральна, што першачарговай мэтай гвалтаўнікоў сталі найбольш смачныя кавалкі беларускай эканомікі.

«Газавы» канфлікт яскрава паказаў, што аніякай іншай стратэгіі, акрамя «пацалункавай», у нашага ўрада няма. Сутнасць канфлікта выявіла банкруцтва не толькі геапалітычнай дактрыны спадара Лукашэнкі, але і ягонай эканамічнай палітыкі. У любой іншай краіне такія наступствы дзейнасці прэзідэнта каштавалі б яму па меншай меры прэзідэнцкай пасады. Але толькі не ў Беларусі. І вось ужо той, хто завёў нас у небяспечную пастку, з экрана прыватызаванага тэлевізара зноў заклікае змагацца з «ворагамі інтэграцыі». Гэтым разам – да апошняга кубаметра газу.

– Перажывем! – галаслоўна падбадзёрвае ён беларусаў.

Перажывем, канешне!

Але што гэта будзе за жыццё?..

**Мікола МАРКЕВІЧ**

# Ці лічыце вы сябе беларускім апазіцыянерам?

**Цікавасць да гэтага пытання была абумоўленая паведамленнем пра тое, што Усясветны рух за дэмакратыю уганараваў у лютым беларускую апазіцыю лістом «Даніна дзеля дэмакратыі». Ліст быў уручаны старшыні партыі БНФ Вінцуку Вячорку. У гэтым лісце, ў прыватнасці, адзначаецца, што міжнародная супольнасць салідарызуецца з мірнай барацьбой «за дэмакратыю і чалавечую годнасць», якую вядзе дэмакратычны рух Беларусі.**

**Але наколькі салідарызуецца з апазіцыянерамі само беларускае грамадства? Якое месца ў барацьбе «за дэмакратыю і чалавечую годнасць» займаюць нашыя суайчыннікі?**

**Такім чынам эксперты ДНЯ і наведвальнікі сайта pahonia.promedia.by прымерваюць на сябе адзенне дэмакратычнай апазіцыі.**

### ЗА



■ **Юрась Мацко**, *мастак-металапластык, сябра Саюзу беларускіх мастакоў:*

– Натуральна, што я лічу сябе чалавекам, які супрацьстаіць афіцыйнаму палітычнаму кірунку. Бо я за тое, каб Беларусь заставалася Беларуссю, каб быў спынены гандаль нашай краінай. Пакуль, канешне, беспардоннага адкрытага гандлю не ідзе, але адчуваецца, што кіраўніцтва Беларусі паступова здае свае пазіцыі. Лічу, што Расея для нас павінна быць такой самай краінай як, напрыклад, Японія ці Бангладэш. Адзінае, што яна бліжэйшая. І ўзаемаадносіны паміж Беларуссю і Расеяй павінны быць такімі ж, як паміж Расеяй і Літвой.

### СУПРАЦЬ



■ **Ганна Бурава**, *дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь ад Гродна, член камісіі па жыллёвай палітыцы, будаўніцтву, гандлі і прыватызацыіі, уваходзіць у дэпутацкую групу Садзейнічання эканамічнаму развіццю :*

– Калі разумець, што апазіцыянер – гэта чалавек, які апаніруе дзеючай уладзе, у такім выпадку – не, я не лічу сябе беларускім апазіцыянерам. Я не ўваходжу ні ў якія апазіцыйныя групоўкі, але гэта не значыць, што я заўсёды і ва ўсім падтрымліваю сённяшнюю ўладу. Мая пазіцыя – гэта эканамічнае развіццё Беларусі. Я імкнуся да таго, каб людзі Беларусі жылі лепш. Я часта выказваю сваё меркаванне нават калі яно не супадае з афіцыйным, але гэта не значыць, што я апазіцыянерка.

Апазіцыя, як у нас разумеецца – гэта частка грамадства, якая супрацьпастаўляе сябе існуючай уладзе і змагаецца за палітычную ўладу. Я гэтым не займаюся.

Я раблю сваю справу, імкнуся рабіць гэта чэсна і не мераю лінейкай, дзе знаходжуся на лініі ўлада-апазіцыя. А вы дзе знаходзіцеся на гэтай лініі? Газета ж павінна мець сваю пазіцыю?

*Ці лічыце вы сябе беларускім апазіцыянерам?*




*Вынікі інтэрнэт-галасавання на http://pahonia.promedia.by*

**На 7,7 адсоткаў павялічыліся за мінулы месяц уклады насельніцтва ў нацыянальнай валюце ў беларускія банкі. Нацыянальны банк тлумачыць жаданне насельніцтва трымаць свае грошы ў банках тым, што дзяржава гарантуе поўную захаванасць зберагенняў грамадзянаў.**

**Як вы лічыце, ці надзейна трымаць грошы ў банку?**

Чакаем вашых меркаванняў у пятніцу 20лютага з 18 да 19 гадзінаў па тэлефоне:

**72-29-96**

*Праз лінзы Алеся ЧОБАТА*

# Нейтралітэт

*Прысвячаецца абаронцам айчыны*

Нам бы супакоіцца. Нам бы пра сябе падумаць, а не пра Эўропу з Расеяй – куды лепш заходзіць. Таму што, так ці так, усё адно будзем на месцы і ў незалежнасці ад Усходу і Захаду. Бо беларусы ёсць малы народ на памежжы, а таму верай нашай мае быць не праваслаўе з каталіцтвам, але нейтралітэт. Мы – малы народ, і таму не ваюем.

Раскажу пра сябе – для ілюстрацыі праблемы. Быў яшчэ студэнтам, сляпы на адно вока, але на ваеннай кафедры тэхналагічнага інстытута таго не заўважалі і так з мяне выйшаў лейтэнант Красной арміи. У 1981 годзе рабілі з мяне таго калеку-лейтэнанта ў Старых Дарогах, у палку хімічнай абароны. А той полк меў бараніць увесь штаб Беларускай і Чырвонасцяжнай вайсковай акругі. І чорт мяне пацягнуў у абсалютна законны вольны дзень у савецкім законным кіёску накупіць законных газет. І разам з імі – партыйную польскую «Trybunu ludu».

На другі дзень мяне паклікалі да камандзіра роты, у чыёй палатцы мяне ўжо чакаў «особист» палка. У Польшчы тады была «Салідарнасць» і яе баяліся.

Допыт мне быў учынены як у вясковай сямігодцы дурню экзамен. «Как будет на польском языке город?» – Miasto. «Улица?» – Ulica. «Дом?» – dom. «Квартира?» – meszkanie. «Имя?» – imie. «Отчество?» Тут мае веды па-польску скончыліся – у палякаў бацькоў не дзеляць, так і пішуць, бацька такі, а маці такая. «А почему же у них по два имени?» – злапаў мяне маёр. «Каталікі», – адказаў я. Богу імя богава, кесару – кесарава.

«Слухаце, Чобат», – злапаў мяне маёр другі раз, – «Ідзіце ў армію! Адразу пяройдзеце да мяне ў аддзел, і не дурыце мне галаву, што вы сляпы і хворы. На службе вы будзеце рабіць тое самае, што цяпер і тут».

Мяне такая перспектыва – а то была бліскучая перспектыва, бо 200 тысячаў чалавек у Красной арміі на Беларусі мелі ўваліцца ў Польшчу, а я меў за маёрам бегаць перакладчыкам, забіраць па начах салідарнікаў і да канца кампаніі сам даслужыцца да маёра – мяне такая перспектыва не радавала. Вось не радавала і канец. «Прыстрэляць», – сказаў я маёру, палякі не чэхі – будуць страляць». Маёр вылупіў вочы: «А,пайшлі вы..!» – пакрыўдзіўся ён і я апынуўся ў Гродне на такім месячным акладзе, што нават мае савецкія бацькі не паверылі, што такое бывае.

Прайшло дваццаць з лішнім гадоў. Прайшло жыццё, змянілася пакаленне. І не змянілася нічога. Цяпер чуваць: «хто мы такія?», «саюз Беларусі і Расеі», «Беларусь у Эўропу». Вось на такой раскарачцы стаіць сёння беларускі чалавек – ці то яму адабралі мінулае, ці то не далі будучыні.

Пабудзем дома.

Без вялікай арміі, ідэі, княства, саюза. Бяда малому народу, які лезе там, дзе не просяць. А тым болей просяць. Мы ж малы народ. Малы народ мае быць у сябе дома. Мы малы народ на памежжы і любы выбар нам кепскі, бо адным будзем слугі, а другім – ворагі. У малога народа адзін выбар – выбраць сябе. Нейтралітэт.

Шведы і швайцарцы былі не багацейшыя за беларусаў, пакуль ваявалі. А потым кінулі ваяваць і сёня іх нашчадкі маюць, што маюць. ■

## Лічба дня

**53**



**гарадзенскія** пары ўзялі шлюб 14 лютага, у Дзень усіх закаханых.

Супрацоўнікі абодвух ЗАГСаў (па вул. Дзекабрыстаў і Ажэшкі), а таксама Дому грамадзянскіх абрадаў (БЛК) сцвярджаюць, што жадаючых распісацца ў Дзень Святога Валянціна было значна больш, чым у звычайныя выхадныя.

А вось днём раней, у «чортаву» пятніцу 13-га, у Гродне не было зарэгістравана ніводнага шлюбу. У ЗАГСе па вуліцы Дзекабрыстаў чакалі адну пару. Аднак на цырымонію жаніх з нявестай не з'явіліся.

## У Гродне чыталі...

**...5 год таму...**

... «Больш за дзве гадзіны ў некалькіх метрах ад Генеральнага консульства Польшчы ў Гродне ляжаў труп 74-гадовага мужчыны. Людзі, якія ў абед 17 лютага крочылі па вуліцы Будзёнага, мусілі абыходзіць нерухомае цела чалавека са сначнелым тварам, якое перагарадзіла палову тратуара».

**ПАГОНЯ, 23 лютага, 1999 года**

**...10 год таму...**

«...Самым ярким моментом было выступление председателя СКП «Прогресс» А.И.Дубко. С болью в сердце он говорил о реалиях нашей действительности, о безрадостном нынешнем положении в сельском хозяйстве...Когда Александр Иосифович заявил, что через недели две вверенное ему хозяйство встанет на колени, чем-то холодным и жутким повеяло...»

**Сельская новь, 26 лютага, 1994**

■

«... Пятьсот тысяч рублей – такова цена одной небольшой обезьянки, которые появились в продаже в зоомагазине Гродненского зоопарка... Экзотические животные, несмотря на высокую цену, находят своих покупателей...А всего их продано четыре штуки...»

**Гродзенская праўда, 22 лютага 1994 года**

# Пенсіі па новаму графіку

**Кожны чацьвёрты жыхар Гарадзеншчыны – пенсіянер. На 1 лютага 2004 года ў Камітэце па працы і сацыяльнай абароне Гарадзенскага аблвыканкама зарэгістравана 304412 пенсіянеры, з іх па ўзросце – 234689 чалавек. 54764 пенсіянеры дагэтуль працуюць.**

**Памер пенсіі залежыць ад двух рэчаў – працоўнага стажа (колькасці гадоў, якія чалавек прапрацаваў) і каэфіцыента (выводзіцца з памеру заробку, які атрымліваў на працягу жыцця чалавек). На 1 лютага 2004 года сярэдняя пенсія жыхароў Гарадзеншчыны складала 127070 рублёў. Самая маленькая пенсія – 72580 рублёў. Ёсць яшчэ і так званая сацыяльная пенсія (28300 рублёў), якая выплочваецца асобам, якія за ўсё сваё жыццё прапрацавалі менш за пяць гадоў ці зусім не працавалі. Такіх на Гарадзеншчыне 189 чалавек.**

**Самую вялікую пенсію атрымліваюць пенсіянеры Міністэрства абароны – іх у нашай вобласці больш за 12 тысячаў чалавек. Іх сярэднестатыстычная пенсія ў лютым 2004 года склала 257 тысячаў, аднак некаторыя вайскоўцы ў адстаўцы атрымліваюць да 680 тысячаў рублёў.**


Фота ByMedia.net

***Усё жыццё працавалі, а хапае толькі на хлеб!***

***Працяг. Пачатак на стар. 1***

– *Мы павінны былі перайсці на новы графік яшчэ ў трайні мінулага года. Але сітуацыя дазваляла не рабіць гэтага. Трэба ж разумець, што такі пераход заўсёды стварае нязручнасці і выклікае незадавальненне людзей. Менавіта таму мы цягнулі да апошняга,* – тлумачыць начальнік аддзела – кіраўнік Цэнтра па налічэнню і выплаце пенсій і пасобій Камітэта па працы і сацыяльнай абароне Гарадзенскага аблвыканкама **Тэрэса Гуз.** Але далей адступаць ужо не было куды.

– *Тое, што Гарадзенская вобласць пераходзіць апошняя, гэта не азначае, што вы адстаеце... Гэта тлумачыцца клопатам кіраўніцтва вобласці пра насельніцтва. Я думаю, што ў вас проста не хацелі «ламаць» графік, да якога прызвычаіліся людзі... Але, відаць, некалькі разоў грошы затрымалі і таму, каб пазбегнуць праблемаў, вырашылі перайсці на новы графік,* – лічыць Людміла Марчанка.

## «Гэта здзек!»

Пенсія Любові Іванаўны Крупянскай складае 137 тысячаў. Паводле афіцыйных дадзеных Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, бюджэт пражытачнага мінімуму для пенсіянераў складае 98.460 рублёў. З пункту гледжання афіцыёзнай статыстыкі, Любоў Іванаўна атрымлівае цалкам прыстойную пенсію. Але ў жыцці не ўсё так прыгожа, як у міністэрскіх паперах. Каля 82 тысячаў «цягне» яе сціплая двухпакаёвая кватэра, 3.700 рублёў трэба аддаць за газ, дадаць да гэтага каля 10 тысячаў за святло і палову гэтага ж за тэлефон і атрымаецца, што на месяц Любові Іванаўне застаецца каля 40 тысячаў. Як за такія грашы ўдаецца выжыць?

– *У асноўным я ем бульбу, хлеб выбіраю таннейшы, батон купляю толькі той, які за 330 рублёў... Гэта дазваляе неяк трываць... Ведаеце, я нават некалькі разоў прытомнасць у крамах губляла. Як пачую пах каўбасы, то галава пачынае кружыцца і – падаю,* – уздыхае **Любоў Іванаўна**.

Некалькі год таму яна нават вырашыла напісаць прэзідэнту пра свой цяжкі лёс.

– *Ён часам даволі прыгожа гаворыць, робіць зусім іншае, але гаворыць прыгожа... Калісьці ён звярта́ўся да людзей, каб яму пісалі, дзеля таго, каб ён ведаў: што ў краіне адбываецца. Я і вырашыла яму напісаць. Але аніякага адказу я на свой ліст не атрымала,* – гаворыць Любоў Іванаўна.

Пасля гэтага прэзідэнту яна не верыць і заўсёды спрабуе зэканоміць «пару рублёў» на сваю любімую «Народную Волю».

Акрамя чатырох дзён жорсткага посту, пераход на новы графік для Любові Іванаўны прынёс яшчэ адну праблему. У адпаведнасці з новым графікам, яна будзе атрымліваць пенсію 15-ага.

– *Гэта здзек! Мала таго, што гэта апошні тэрмін аплаты за камунальныя паслугі, дык яшчэ ў лютым 15 прыпадае на нядзелю. Таму заплаціць за кватэру я здолею толькі са спазненнем. Чаму я абавязана плаціць пеню, калі маёй віны ў спазненні няма?* – абураецца Любоў Іванаўна.

Аднак заплаціць пеню ў такім выпадку ўсё ж такі прыйдзецца.

Як паведамілі карэспандэнту ДНЯ ў ЖРЭУ Ленінскага раёна Гродна, ніякіх адтэрміновак па аплаце камунальных плацяжоў для пенсіянераў у сувязі з пераходам на новы графік выплаты пенсій няма. Маўляў, аплата бярэцца за мінулы месяц, а пенсія выплочваецца за бягучы, таму і размаўляць няма пра што.

– *Калі выплата выпадае на нядзелю, дык часцяком ёсць магчымасць атрымаць пенсію раней... Але я б параіла ў такім выпадку адчыніць рахунак у ашчадным банку. Тады можна будзе атрымліваць пенсію да 11-ага,* – гаворыць **Тацццяна Галавач.**

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ**

**■ Леанід Злотнікаў, кандыдат эканамічных навук:**

– На пачатку 90-х узровень пенсіі быў блізкі да ўзроўню заробкаў. Пенсіі тады складалі да 70 адсоткаў сярэдняга заробку, цяпер жа гэты ўзровень паніз́іўся да 40 адсоткаў... Калі эканоміку не рэфармаваць, дык падобны стан рэчаў будзе толькі паглыбляцца... Прычын гэтаму некалькі. Я вылучыў бы павелічэнне колькасці пенсіянераў, негатыўны агульны стан эканомікі, у прыватнасці вычэрпанасць усіх рэзерваў... Акрамя гэтага, уплыў на сітуацыю мае таксама зніжэнне датацыйнай падтрымкі з боку Расеі. Калі раней «Газпром» прадаваў Беларусі газ ніжэй сабекошту, то сёння рабіць гэта ён адмаўляецца... У выніку пенсійны фонд самастойна сабраць грошы, патрэбныя для выплаты, не ў стане. І гэта нягледзячы на вялікія падаткі... Для забеспячэння насельніцтва пенсіямі патрэбна дадатковая падтрымка дзяржавы, датацыі... У падобных умовах пенсіянерам не варта разлічваць ў бліжэйшыя часы на павелічэнне пенсій. Я лічу, што напружанасць па пенсіях будзе толькі павялічвацца.

**Колькасць працуючых на аднаго пенсіянера ў Рэспубліцы Беларусь**




***Паводле дадзеных Фонда сацыяльнай абароны насельніцтва***

## Апытанне дня

***Ці лічыце вы, што дзяржава абараняе пенсіянераў? З такім пытаннем мы звярнуліся да жыхароў нашага гораду.***



**Наталля і Сяргей Вайтэнка, маладая сям'я**

Не, канешне. Пенсіі вельмі малыя, няма аніякіх ільготаў. Пенсіянеры зараз не жывуць, а выжываюць. Мы ўвогуле можам застацца без пенсіяў. Сёння трэба зарабляць не менш чым 250-300 тысяч рублёў, каб пасля атрымліваць больш-менш прыстойную пенсію. А дзе зараз у нас такія заробкі?



**Любоў Юльянаўна, працуючая пенсіянерака**

Як жа дзяржава можа нас абараніць, калі ў яе няма сродкаў? Колькі падаткаў у нас не сплочваецца, а ўтойваецца. Трэба спрасціць сістэму падаткаабкладання, тады і прадпрымальнікі, і прадпрыемствы будуць нармальна плаціць у бюджэт. І яшчэ, сённяшнія пенсіі вельмі нераўназначныя. Міліцыянт ці вайсковец атрымлівае значна больш, чым звычайны працоўны. Так не павінна быць.



**Святлана, хатняя гаспадыня**

Пра што вы кажаце! Маёй маці 76 год, яна атрымлівае каля 200 тысяч. Вось і палічыце: заплаці за кватэру, набудзь лекі, а яшчэ і пад'есці хочацца. Я на дзяржаву зусім не разлічваю, толькі на сябе, таму і на сваю пенсію не спадзяюся.



**Мікалай Курыла, працоўны**

З аднаго боку, дзяржава абараняе пенсіянераў, бо пенсіі падвышае, з другога – не, бо на адну пенсію пражыць немагчыма. За адну толькі кватэру прыходзіцца плаціць 70 тысяч. А есці за што? Трэба абавязкова працаваць, з адзінай пенсіяй далёка не працягнеш.



**Аляксандар Кочнеў, вучань сярэдняй школы**

Так! Канешне дзяржава абараняе нашых пенсіянераў. Пенсіі выплочвае рэгулярна, ветэранам дапамагае. Паглядзіце, якія святы ладзіць! Сённяшнім пенсіянерам павінна хапаць на жыццё, хаця, канешне, у каго якія патрэбы. Я, асабіста, вельмі разлічваю на дзяржаву, калі стану пенсіянерам.

**Апытвала Юлія КОЦКАЯ, фота Юліі ДАРАШКЕВІЧ**

# Любоў, каханне і міліцыя

**У Дзень святога Валянціна прымалі прысягу на вернасць беларускаму народу 77 прызыўнікоў міліцэйскага батальёну гарадзенскай вайсковай часткі №5522.**

**– З Днём закаханых вас, байцы! І хай дзяўчаты вас дачакаюцца, – павіншаваў прызыўнікоў палкоўнік міліцыі ў адстаўцы Іван Абросім.**

**Усе астатнія госці ўрачыстасці, у тым ліку старшыня адміністрацыі Кастрычніцкага раёна Сяргей Пацэвіч і праваслаўны святар айцец Павал, казалі салдацікам пра куды больш актуальныя на бліжэйшыя паўтары гады пачуцці – любоў і адданасць Радзіме.**

**Юлія ДАРАШКЕВІЧ**




Фота Юліі ДАРАШКЕВІЧ

## Мор

**Больш за 50 мільёнаў рублёў – у такую суму, па папярэдніх падліках, ацэнены матэрыяльныя страты ад мору кур на Гарадзенскай птушкафабрыцы.**

12 тысячаў нясушак задыхнуліся дымам другога лютага. Пажар распачаўся ў прыбудове для збору яек птушніка №9. У будынку працавала прымусовая вентыляцыя, таму дым з яйказборніка імгненна трапіў у птушнік і смяротна атруціў нясушак.

Узбуджана крымінальная справа па артыкуле 218 ККРБ (наўмыснае знішчэнне ці пашкоджанне маёмасці). Аднак, начальнік следчага аддзела РАУС Гарадзенскага раёна Сяргей Вішэнкоў лічыць, што па выніках экспертызаў, артыкул можа быць зменены:

– *На сённяшні дзень асноўнымі версіямі з'яўляюцца падпал, нядбайнасць і няспраўнасць абсталявання. Апошняя выглядае найбольш праўдападобна: будынку птушніка ўжо больш за 40 гадоў.*

Версію крадзяжу следчыя абвергі пасля таго, як пералічылі тушкі здохшых кур. Іх аказалася 12 тысячаў, плюс 156 нясушак, якія выжылі, – агулам роўна столькі кур, колькі было ў птушніку да пажару.

**Яна РАДЗІВОН**

# Крыху экзотыкі ў беларускім «Куфэрку»

**14 лютага, у Дзень святога Валянціна, гасцінна адчыніла свае дзверы для гарадзенцаў і гасцей горада кавярня «Куфэрак». Па словах прыгожай барманкі, на працягу дня было столькі «закаханых» наведвальнікаў, што супрацоўнікі ледзь паспявалі мыць посуд.**

Паўстала новая кавярня не на пустым месцы. Дагэтуль, у паграбку па вуліцы Віленскай мясціўся небезвядомы з часоў «гарбачоўскае перабудовы» бар «Южны вечар». Створаны ў 1988 годзе, ён быў ці не першай прыватнай установай падобнага тыпу ў Гродне. Але змяняліся часы, а з імі і гаспадары. І вось улетку мінулага года гэты мілы паграбок узялі ў арэнду Вольга і Мікола Хвашчынскія, каб, як яны выславіліся, «адрадзіць маленькую еўрапейскую кавярню».

– Я, як напэўна кожная клапатлівая жанчына-гаспадыня, заўсёды захаплялася кандытарскімі вырабамі і печывам, – прызналася карэспандэнту ДНЯ гаспадыня «Куфэрка» Вольга Хвашчынская. – Увогуле, вельмі люблю гатаваць і частаваць іншых! Пяць гадоў я пражыла ў Рызе, і мяне настолькі ўразілі тамтэйшыя маленькія кавярні ў «традыцыйным еўрапейскім стылі», што я доўга марыла стварыць нешта падобнае тут, на радзіме...

І вось мары здзейсніліся. Праўда, у «Куфэрку» тутэйшая гарадзенская традыцыйнасць удала спалучылася з усходняй экзотыкай. Мастак Генадзь Лакоба выканаў для кавярні сем роспісаў на шоўку па матывах персідскіх мініятураў 13 стагоддзя. Увогуле, памяшканне «Куфэрку», патанае ў цёплых жоўта-пясочных танах і пакідае прыемнае ўражанне.

– *Тут, больш не будзе, як раней, дазволена паліць цыгарэты і хадзіць узад і ўперад на вуліцу з пляшкамі таннага піва*, – працягвае **Вольга Хвашчынская.** – *Бо галоўнымі напоямі стануць нармалёва згатаваная кава і гарбата па-азіяцку, запараная не ў шклянках, а адмысловых гарбатніках. Ідэя кавярні – стварэнне ўтульнай сяброўскай атмасферы, каб можна было без сораму і спакойна паразмаўляць, напрыклад, па-беларуску, паслухаць этнафольк ці класічную рок-музыку, а не прымітыўную расейскую папсу. Пажадана, каб кавярню наведвалі прыстойныя інтэлігентныя людзі...*

Акрамя звычайных закусак і трункаў, «фірмовым блюдам» кавярні мае стаць печыва з тонкага слаёнага цеста «Круасан» з усялякімі начынкамі. Гаспадыня «Куфэрку» колькі гадоў таму засвоіла адмысловую тэхналогію вырабу знакамітых «французскіх булак». Так што ў «Куфэрку» можна будзе не толькі папіць смачнай кавы і гарбаты, але й падмацавацца.

**Севярын ДРУЦКІ**

## Фермерам – зямлю

**Рэальна дапамагаць станаўленню фермерскіх гаспадарак просяць чыноўнікаў аблвыканкама гарадзенскія фермеры, а самі працягваюць узмацняць шэрагі Абласной Асацыяцыі фермерскіх гаспадарак, справаздачнае паседжанне якой адбылося ў Гродне на мінулым тыдні.**

Генеральны дырэктар Асацыяцыі Уладзімір Ушкевіч адзначыў, што раённыя ўлады ў сваёй большасці замінаюць развіццю фермерскіх гаспадарак, выдзяляючы фермерам, як правіла, землі няўдобіцы. Паводле ягоных словаў, дзяржаўная падтрымка фермерскіх гаспадарак з разліку на гектар нашмат меншая, чым дзяржаўная падтрымка калгасаў і саўгасаў. Фермеры прынялі рашэнне звярнуцца ў аблвыканкам з просьбай уключыць фермерскія гаспадаркі ў размеркаванне сродкаў.

У сваіх выступленнях, фермеры крытыкавалі праект новага Закона аб зямельных уладаннях, паводле якога арэндаваць зямлю можна будзе толькі на тэрмін ад пяці да дзевяноста дзевяці год. Старшыня Асацыяцыі Бернард Тодрык сказаў, што гэты пункт закона пагражае фермеру, бо ён фактычна трапляе ў залежнасць ад раёнага кіраўніцтва. «За пяць год улада ў раёне можа змяніцца і невядома як да фермерства паставіцца новае начальства». Бернард Тодрык прапанаваў змяніць ніжні тэрмін арэнды зямлі на 25 год.

Паводле праекта закона, фермерская гаспадарка можа быць створана толькі членамі адной сям'і. Бернард Тодрык лічыць, што ў такім выпадку фермеры пазбавяцца магчымасці прыцягваць у гаспадарку неабходныя інвестыцыі, але, з другога боку, яны будуць абароненыя ад расейскага капітала, якога, па словах Тодрыка, фермеры са страхам чакаюць, бо «прыйдуць, скупяць зямлю, і нас гэтым знішчаць».

Сёння на Гарадзеншчыне існуюць 328 фермерскіх гаспадарак, якія апрацоўваюць больш чым два адсоткі ўсіх сельскагаспадарчых земляў нашай вобласці. Найбольшая колькасць гаспадарак фермераў – 46, створана на Смаргоншчыне. За мінулы год спынілі сваю дзейнасць 33 гаспадаркі, а стварыліся 55.

**Іван ПАЎЛЁНАК**

# Сяргей Саладоўнікаў будуе новую каманду

**Вядомыя футбалісты – Дзмітры Кавалёнак, Аляксандр Суліма, Віталь Надзіеўскі, Віталь Тарашчык – складуць касцяк гарадзенскага «Нёмана» у новым футбольным сезоне. Асобныя пазіцыі будуць узмоцненыя легіянерамі з Расеі ды Украіны. Гэтыя ды іншыя тэмы, прысвечаныя пачатку новага футбольнага сезона, абмяркоўваліся на прэс-канферэнцыі з удзелам галоўнага трэнера каманды Сяргея Саладоўнікава і старшыні клуба Сяргея Карозы.**

Упершыню ў сваёй найноўшай гісторыі каманда пачынае сезон без фінансавых запазычанасцяў футбалістам.

– *Мы маем каля сямідзесяці адсоткаў неабходных для каманды сродкаў*, – адзначыў **Сяргей Кароза.** – *Галоўнымі фундатарамі клуба з'яўляюцца два буйныя гарадзенскія прадпрыемствы: «Гроднаэнэрга» і «Гроднааблгаз». А вось «Юкола», якая ў тым годзе была нашым спонсарам, у спісе фундатараў ужо не значыцца.*

Па словах Сяргея Карозы, з-за фінансавых праблемаў кіраўніцтва гэтай вядомай кампаніі адмовілася ад падтрымкі каманды, таму на футболках гульцоў у гэтым годзе з'явіцца новы лагатып. Хутчэй за ўсё, гэта будзе назва аднаго з вышэйназваных прадпрыемстваў.



***Сяргей Саладоўнікаў з аптымізмам глядзіць у будучыню***

Канчатковы склад, у якім «Нёман» пачне чарговы чэмпіянат Беларусі, будзе вызначаны пасля трэніровачных збораў у чэшскім Всеціне і польскім Вангроўцы, якія запланаваныя на канец лютага-пачатак сакавіка. На сённяшні дзень подпісы пад кантрактамі з «Нёманам» паставілі расейцы Дзмітрый Карнішын, Аляксандр Віктараў і Сяргей Мяцеліца. Гэтыя гульцы прыйшлі ў «Нёман» з ніжэйшых дывізіёнаў футбольнага чэмпіянату Расеі і камандзе дасталіся задарма. Па словах галоўнага трэнера каманды Сяргея Саладоўнікава, трэнерскі штаб вядзе актыўную работу з групай футбалістаў з «Нёмана-2», таму не выключаная магчымасць з'яўлення ў камандзе некалькіх выхаванцаў гарадзенскай футбольнай школы.

Чэмпіянат Беларусі ў вышэйшай лізе мае пачацца 15 красавіка. Дзеля таго, каб прыняць у ім удзел, усе клубы павінны прайсці ліцэнзаванне. Атрымаць ліцэнзію магчыма толькі пры выкананні шэрагу ўмоваў: прыкладам, кожны клуб вышэйшай лігі павінен мець тры групы падрыхтоўкі маладых футбалістаў: 1988, 1989 і 1990 годоў нараджэння. Як запэўніў старшыня клуба Сяргей Кароза, з гэтым у «Нёмана» не павінна ўзнікнуць сур'ёзных праблемаў, бо на сённяшні дзень заключаныя дамовы з дзіцячымі футбольнымі школамі СДзЮШАР– №6 і СДзЮШАР-Белкард аб стварэнні такіх групп.

Згодна з новымі ўмовамі ліцэнзавання, Беларуская федэрацыя футбола будзе больш пільна сачыць за выкананнем усіх патрабаванняў. Асабліва за станам стадыёнаў, дзе клубы праводзяць свае хатнія гульні. У сувязі з гэтым, кіраўнікі галоўнай футбольнай каманды Гарадзеншчыны паведамілі, што гарадзенскі стадыён «Нёман», рэканструкцыя якога яшчэ не закончаная, не адпавядае гэтым патрабаванням. Асноўныя прэтэнзіі да раздзявальняў. Каментуючы сітуацыю са стадыёнам, Сяргей Кароза не выключыў магчымасці паўтарэння сітуацыі мінулага году, калі «Нёман» доўгі час быў вымушаны праводзіць гульні на стадыёне ў горадзе Ліда.

Ёсць і больш аптымістычныя навіны. «Нёман» вырашыў працягнуць практыку арганізацыі выездаў аматараў на гасцявыя гульні «Нёмана». Плануецца таксама выпусціць вялікую колькасць атрыбутыкі з клубнымі колерамі.

**Сяргей Саладоўнікаў:**

– *Мы пачалі будаваць новую каманду. У кожным клубе наступае перыяд, калі ён сябе зжывае і патрабуе новай крыві. Мы не хочам паўтарыць лёс мазырскай «Славіі», якая была сабраная за год з моцных футбалістаў. Праз два гады, калі памятаеце, гэтая каманда развалілася.*

**Сяргей Кароза:**

– *Тры гады таму клуб атрымліваў з бюджэта фактычна толькі пятую-шостую частку грошай неабходных камандзе на год. Гэтага нам не хапала, таму даводзілася ўсюды здабываць патрэбныя сродкі праўдамі і няпраўдамі. Трэба падзякаваць кіраўнікам горада і вобласці, яны зрабілі ўсё магчымае, каб вырашыць нашыя фінансавыя праблемы.*

**Макс ПРЫНЁМАНСКІ**

# Андрэй Васюкевіч: «Мы прыйшлі зрабіць людзей шчаслівымі»

**Магчыма, праз якія дваццаць-трыццаць год у сусветнай псіхалагічнай навуцы і практыцы з'явіцца паняцце «гарадзенская псіхалагічная традыцыя». І паняцце гэтае будзе сінонімам выключнай прафесійнасці. А Гродна, ва ўяўленні ўсяго свету, ды і на самой справе, стане горадам, дзе жывуць самыя добрыя і самыя шчаслівыя людзі – таму што ім ёсць каму прынесці свае праблемы.**

**Сёння чытачы ДНЯ пазнаёмяцца з тым, каго, магчыма, будуць называць заснавальнікам будучай «гарадзенскай псіхалагічнай традыцыі», са студэнтам трэцяга курса факультэта псіхалогіі ГрДзУ ім. Янкі Купалы Андрэем Васюкевічам.**









*Андрэй Васюкевіч – абсалютна пазітыўны хлопец*

## Адмаўляючы куратарства

*– З тых, хто скончыў наш факультэт тры гады таму, толькі двое працуюць у псіхалогіі, астатнія ўладкаваліся хто дзе, нават на рынках,* – гаворыць **Андрэй Васюкевіч**. *– А чаму? Таму што проста баяцца ісці да людзей, таму што не навучыліся гаварыць, нават, адзін з адным. Такія псіхолагі, якіх выпускае наш універсітэт – не запатрабаваныя, а такіх, якія запатрабаваныя – не выпускаюць.*

Таму Андрэй стаў стваральнікам дадатковай вучэбнай практыкі, творчай майстэрні і згуртаваў вакол гэтай справы каля 20 студэнтаў другога курса. Яны выбралі чатыры цікавыя для сябе накірункі даследаванняў: канфлікты, суіцыд, згуртаванасць і НЛП (нейралінгвістычнае праграмаванне). Кожным з накірункаў занялася асобная група – «лабараторыя». Чатыры разы на тыдзень «лабаранты» збіраюцца і абмяркоўваюць матэрыял па вывучаемай праблеме, ставяць пытанні для далейшых даследаванняў, прадукуюць ідэі.

Паводле праграмы, распрацаванай Андрэем, паўгады яны вывучалі тэорыю, якая існуе па абраных праблемах –корпаліся ў бібліятэках, знаёміліся з даследаваннямі і распрацоўкамі. Хутка пачнецца практычная частка, дзе студэнты будуць прыкладаць свае веды да сітуацый, якія знойдуць у газетах і літаратуры. Потым, магчыма, удасца дамовіцца з практыкуючымі псіхолагамі і атрымаць доступ да рэальных жыццёвых калізіяў. Паралельна, яны будуць вучыцца распрацоўваць і праводзіць трэнінгі. Усё гэта Андрэй Васюкевіч і яго майстэрня робяць самастойна, пасля заняткаў на факультэце. Збіраюцца «лабараторыі» часцей за ўсё ў адным з пакоеў студэнцкага інтэрната.

Стаўленне выкладчыкаў факультэта да такой студэнцкай ініцыятывы станоўчае. Хаця і не абыходзіцца без скептычных перасцярог: быццам бы моладзь узяла сабе занадта складаныя тэмы, справіцца з якімі не здолее.

*– Так, яны ўзялі складаныя праблемы – гэта юнацкі максімалізм,* – гаворыць намеснік дэкана факультэта, прафесар кафедры агульнай і сацыяльнай псіхалогіі **Аляксандр Колышкаў**. *– Але іх можна зразумець: яны ж для чаго прыйшлі сюды – рабіць сапраўдную справу, а не разменьвацца на дробязі! Таму ёсць цікавасць і матывацыя.*

І хоць у стварэнні плана работы майстэрні і пры ўзнікненні цяжкасцяў Андрэй канеультуецца са сваімі прафесарамі, непасрэднае куратарства з боку выкладчыкаў студэнты адмаўляюць. Нават трэнінг для першага курса яны праводзілі самастойна. Колышкаў з гэтым згаджаецца:

*– Калі б было куратарства, яны б «глядзелі ў рот» выкладчыку і чакалі ад яго падказкі. Але ў рэальнасці, калі ты кансультуеш, такой падказкі няма, ты мусіш вырашаць праблему сам. Псіхолаг-практык павінен быць у першую чаргу асобай сталай. Гэта не набываецца, калі хтосьці вучыць. Гэта набываецца, калі ты бярэш на сябе адказнасць. Таму майстэрня – класны момант для самавызначэння.*

Не выпадкова, лічыць прафесар, лідэрам, які ўвасобіў ідэю майстэрні, стаў менавіта Андрэй Васюкевіч: «Ён не дыктатар, у яго дастаткова высокі інтэлект, прычым з практычнай дамінантай, што бывае вельмі рэдка. А галоўнае – яму 33 гады, ён прыйшоў у псіхалогію сфармаванай асобай, якая пры гэтым не згубіла цікаўнасць да новага».

## Пераадольваючы бар'еры

На лекцыі Андрэй ездзіць на таксі. Таму што ні на грамадскім транспарце, ні пешкі дайсці да будынка «Гроднаграмадзянпраекта», дзе праходзяць заняткі, ён не можа. Не можа падняцца і па высокай крутой лесвіцы ў будынак – туды яго звычайна заносяць таксісты альбо аднакурснікі. Ён не здольны, нават, падняць нешта з падлогі. Андрэй мае вельмі рэдкую генетычную хваробу – яго мышцы ног перасталі развівацца, калі хлопцу было шэсць год.

Хвароба прагрэсуе: бегаць ён перастаў калі яму было недзе 20 год. Пазней пачаліся праблемы з хадой. На першым курсе ён яшчэ мог ездзіць грамадскім транспартам, зараз – толькі на таксі.

Тыя, хто мае такую хваробу, звычайна паміраюць хутка і па двум прычынам: альбо яны, не здольныя больш хадзіць, кладуцца ў ложак – і гіпертрафіравана развітае сэрца не вытрымлівае недахопу нагрузак. Альбо аднойчы яны проста падаюць і забіваюцца.

Андрэй умее правільна ўпасці – у 13 год яго гэтаму навучыў адзін сябра-дзюдаіст. А класціся ў ложак ад адчаю ён не збіраецца: праз пару месяцаў ён намераны легчы на аперацыю. Яму зламаюць суставы і перакруцяць звязкі, тады, магчыма, трошкі вернецца рухавасць ног – а гэта значыць, што яму ізноў стануць даступныя фізічныя практыкаванні і, можа, «мышцы адклікнуцца».

Дапамогу ад чужых Андрэй успрымае і прымае, як цалкам натуральную.

*– Дапамагаючы мне, чалавеку, якому не магчыма не дапамагчы, людзі вучацца рабіць гэта для іншых, чые праблемы не такія відавочныя. Яны быццам бы пераадольваюць у сабе нейкі бар'ер.*

Увогуле, ён абсалютна пазітыўны хлопец, без трагізму ў паводзінах, хуліган з дзяцінства.

*– Недзе ў 12-13 год быў момант, калі пытаў: «чаму я?!». Тады пачала мяняцца мая хада, я стаў кульгаць. Але перажыванні гэтыя скончыліся хутка, бо не было калі – трэба было вучыцца біцца!*

Калі вучыўся ў другім класе, яго паставілі на ўлік у міліцыі – за «спробу рабавання банка». Андрэй з-за простай хлапечай цікаўнасці па пажарнай лесвіцы будынка залез на другі паверх ашчаднай касы. Калі спусціўся, яго ўжо чакалі міліцыянты. Хацелі завесці хлопца ў касу, але ён, засаромеўшыся таго, што там яго ўсе ведаюць, бо ў касе працавала маці – вырваўся і збег ад міліцыянтаў.

Пасля школы бацька ўладкаваў яго мастаком у будаўнічай арганізацыі, дзе сам адпрацаваў шмат год. Андрэй маляваў лозунгі пра тое, што «коммунизм возводить молодым», а часцей – жалобныя стужкі на вянкі для памерлых работнікаў ПМК. Бацька час ад часу прыязджаў, каб пракантраляваць, ці добра працуе сын. А заадно перачытваў надпісы на жалобных стужках . Аднойчы Андрэй напісаў на адной: «Дарагому Андрэю Васільевічу Васюкевічу ад ПМК» – бацька убачыўшы, вылаяўся, але больш сына не кантраляваў.

У бурлівыя дзевяностыя Андрэй працаваў часаўшчыком, прадаўцом на рынку, прадпрымальнікам, нават заснавальнікам уласнай фірмы, пакуль не зразумеў, што яму патрэбная псіхалогія:

*– Я жыў ва ўласным доме ў цэнтры Дзятлава, дзе зыходзіліся ўсе дарогі. У мяне вельмі шырокае кола зацікаўленняў, вельмі шмат знаёмых. Ноччу я ніколі не зачыняў дзверы і мае знаёмыя ведалі, што могуць зайсці да мяне ў любы час: удзень ці ўночы. Калі спаў, яны маглі сесці тэлевізар паглядзець альбо пад'есці... Мы вялі шмат размоваў, вельмі шчырых. І я неяк заўважыў, што шмат хто мае аднолькавыя праблемы. Калі мне пятнаццаты раз распавядалі тую самую гісторыю – я пачынаў шукаць, чым дапамагчы. Гартаў кніжкі, імкнуўся знайсці дакладныя фармуліроўкі – і нічога не знаходзіў, апускаліся рукі. Я адчуваў, што калі ў многіх людзей аднолькавыя праблемы, то мусіць быць нейкая адзіная схема іх вырашэння. За гэтай схемай я і прыйшоў сюды... Але няма тут такой схемы!*

## «Мы прыйшлі!»

Андрэй спадзяецца, што майстэрні, падобныя той, што стварыў ён, стануць традыцыяй на факультэце: сённяшнія ўдзельнікі лабараторыяў прыйдуць да наступнага другога курса і прапануюць ім стварыць майстэрню. Тыя, у сваю чаргу, прыйдуць да малодшых – і так узнікне традыцыя. А тыя, хто пройдзе праз гэтыя майстэрні, маюць усе шансы стаць дзейснымі практыкамі.

*– Усе значныя працэсы ў навуцы, культуры, грамадстве звычайна нараджаліся з вось такіх дробных ініцыятываў знізу – і навуковыя школы, і мастацкія плыні, і, нават, рэвалюцыі. Таму гэтыя майстэрні могуць стаць перадумовай вельмі значных з'яваў,* – лічыць прафесар Колышкаў.

*– А хто гэта яшчэ будзе рабіць калі не мы?!* – здзіўляецца Андрэй Васюкевіч. *– Мы прыйшлі і будзем гэта рабіць. Мы будзем рабіць людзей шчаслівымі, бо гэтаму мы вучымся!*

**Ліза МАНЯК,**
**фота аўтара**




*Сітуацыю з беларускімі прафсаюзамі параўноўваюць са становішчам прафсаюзаў у краінах, дзе пануюць вайсковыя дыктатуры...*

## Роман спадзяваецца на абласны суд

**Прафсаюзны актывіст Ян Роман звольнены законна. Такое рашэнне 16 лютага вынес суд Ленінскага раёна Гродна. Роман з такім рашэннем не згодны і збіраецца яго абскардзіць у судзе Гарадзенскай вобласці.**

Працоўны ААТ «Гарадзенскі завод аўтамабільных агрэгатаў» Ян Роман быў звольнены 24 лістапада мінулага года за «сістэматычнае невыкананне сваіх абавязкаў». Фармальнай падставай для гэтага стала рашэнне камісіі па культуры вытворчасці, якая двойчы прызнала, што Роман неналежным чынам захоўвае парадак на сваім працоўным месцы. Ян Роман з'яўляецца адным з актывістаў прафсаюза АСМ. На ягоную думку, прычыны звальнення трэба шукаць менавіта ў яго грамадскай актыўнасці.

*– Праблемы з адміністрацыяй пачаліся недзе паўгады таму, калі я напісаў некалькі скаргаў. З таго часу да мяне і сталі чапляцца... Адміністрацыя прадпрыемства нават не адказвала на мае пісьмовыя звароты і ўвесь час вяліся пошукі падставаў для звальнення,* – гаворыць **Ян Роман.**

Гэтаму пярэчаць прадстаўнікі адміністрацыі завода.

*– Да Романа не было ніякіх асаблівых адносінаў, да яго ставіліся так, як і да іншых працоўных... Працуй і будзеш атрымліваць заробак, а не вымовы,* – заявіў у судзе начальнік прававвога аддзела ААТ «ГЗАА» **Леанід Беразоўскі.**

Аднак, напрыклад, непасрэдны начальнік Романа Антон Шведка адмовіўся адказваць на пытанне: ці было перадузятым стаўленне адміністрацыі да яго падначаленага? Але зазначыў, што ў яго асабіста не было да працы Романа ніякіх прэтэнзій. Былы напарнік Романа Вячаслаў Сіліцкі адкрыта заявіў:

*– Калі «наехалі» на нас, дык я адразу зразумеў, што звольняць, і таму нікуды не скардзіўся, а шукаў сабе новае месца працы.*

На працэсе быў агучаны цэлы шэраг парушэнняў тэхнікі бяспекі на прадпрыемстве. Ян Роман заявіў, што ягоны подпіс у журнале ўліку азнаямлення з правіламі тэхнікі бяспекі быў падроблены. Аляксандр Парадкаў, які прадстаўляў у судзе бок Романа, заявіў нават адмысловае хадайніцтва, каб суд вынес прыватную пастанову з нагоды выяўленых парушэнняў. Але гэтая заўвага так і не была пачута.

Не больш за 10 хвілінаў спатрэбілася суддзі Лойшы, каб вынесці рашэнне.

*– Я з такім рашэннем не згодны і збіраюся яго абскардзіць... Я спадзяюся, што ў абласным судзе больш уважліва падыдуць да маёй справы,* – гаворыць Роман.

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ**



■ **Сяргей Антусевіч** *Старшыня Незалежнага прафсаюза ААТ «Гродна-Азот», дэпутат Гарадзенскага гарсавета:*

– Гэтая справа тычыцца не толькі Яна Романа ці прафсаюзных актывістаў завода аўтаагрэгатаў... За гэтай справай сочыць увесь сусветны прафсаюзны рух. У прыватнасці, сітуацыя адсочваецца Міжнароднай арганізацыяй працы (МАП). Гэта красамоўны прыклад парушэння правоў прафсаюзаў. Па сутнасці, на «Аўтаагрэгатах» адбылося вынішчэнне прафсаюза ... Штосьці падобнае адбывалася са Свабодным прафсаюзам на «Хімвалакне», калі ўсіх, хто патэнцыяльна мог стацца прафсаюзным лідэрам, звольнілі... Я не буду каментаваць рашэнне суда, але хачу падкрэсліць, што гэтая справа ўважліва адсочваецца і, напэўна, на яе будзе адпаведная рэакцыя.... У МАП сітуацыю з беларускімі прафсаюзамі параўноўваюць са становішчам прафсаюзаў у краінах, дзе пануюць вайсковыя дыктатуры... Гэта можа пацягнуць за сабой эканамічныя санкцыі ў дачыненні да нашай краіны. Хацелася, каб пра гэта памяталі тыя, хто падобным чынам змагаецца з прафсаюзамі.

## Нарабілася

П'яны бацька задушыў свайго трохгадовага сына. Другі сын, паўгадавое немаўлятка, са шматлікімі пераломамі і чэрапна-мазгавой траўмай знаходзіцца зараз у цяжкім стане ў Карэліцкім ТМО.

Сям'я з вёскі «Райца», што ў Карэліцкім раёне, у мінулую нядзелю прымала гасцей. Па заканчэнні імпрэзы муж з жонкай пасварыліся, і маці дваіх малалетніх дзяцей сышла да суседкі. Калі пад ранак яна вярнулася дахаты, абодва сыны былі ў крывападцёках і сіняках. Трохгадовы малы ўжо не дыхаў. П'яны бацька ў гэты час спакойна спаў.

Па факце забойства ўзбуджана крымінальная справа па артыкуле 139 часткі 2 («Забойства заведама малалетняга...») Крымінальнага Кодэкса Рэспублікі Беларусь.

**Юлія ДАРАШКЕВІЧ**

Тэлефануйце 72-29-96

**Дзень змагаецца за вас**

# Справа №4 «Псіхічна здаровы»

***На працягу дзесяці гадоў Віктар Саламянка* лічыўся «псіхам». Толькі ў 1995 годзе яму афіцыйна паведамілі, што ён ніколі не цярпеў ад псіхічнай хваробы. З таго часу спадар Віктар змагаецца за тое, каб даведацца – наколькі законным было ягонае прымусовае псіхіятрычнае лячэнне. Пакуль – безвынікова.***

Слухаючы аповед Віктара Саламянкі, мы не маглі пазбавіцца ўражання, што шмат якія факты ў ім прыдуманыя. Аднак, калі мы *пазнаёміліся з дакументамі* і пракансультаваліся са спецыялістамі, прыйшлі да высновы, што гэтая гісторыя праўдзівая. Больш таго, яна дэманструе, наколькі нязначна змянілася сітуацыя ў нашай краіне з савецкіх часоў, калі правы чалавека і абавязацельствы дзяржавы перад грамадзянамі былі пустой дэкларацыяй.

### Камісаваць па артыкуле 5 «б»

Усё пачалося ў 1985 годзе ў савецкім войску. На другім годзе службы 19-ці гадовы Віктар расчараваўся ў армейскіх парадках, якія вельмі адрозніваліся ад таго, што паказвалі ў праграме «Служу Советскому Союзу», і дэзерціраваў з вайсковай часткі. Аднак, пасля таго, як яго паймалі, салдат не быў прыцягнуты да крымінальнай адказнасці. Замест гэтага «айцы камандзіры» разам з вайеннымі медыкамі *вырашылі* зрабіць яго «ненармальным» і камісаваць па артыкуле 5 «б» (псіхічнае расстройства пры арганічным захворванні галаўнога мозга).

Чаму? Таму, што, *калі б* дайшло да судовага разбіральніцтва, савецкая (а галоўнае – сусветная) грамадскасць магла б даведацца, што дэзерціра Саламянку знялі з карабля, які накіроўваўся ў Англію. І, што галоўным матывам ягонага пабегу было жаданне вырвацца з абдымкаў «шчаслівай» савецкай рэчаіснасці. Зразумела, што, замест павелічэння статыстычкі савецкіх вязняў сумлення, камуністычнай уладзе было больш да спадобы павялічваць колькасць савецкіх псіхапатаў.

### «Спроба пераходу мяжы»

Пасля камісавання Віктар вярнуўся да маці ў горад Цхвін (Ленінградская вобласць) і пачаў працаваць слесарам на мясцовым заводзе. Улетку, падчас адпачынку, ён паехаў да бабулі, якая жыла ў вёсцы Навасёлкі Гарадзенскага раёна.

Некалькі тыдняў малады чалавек адпачываў у бабулі без праблемаў. Але аднойчы яму спатрэбілася паехаць у Гродна. Таксоўку, на якой ён вяртаўся з абласнога цэнтра, затрымалі памежнікі. Навасёлкі тады знаходзіліся ў памежнай зоне і патрапіць у іх дазвалялася толькі па адмысловых прапусках. Віктар пропуску не меў, таму, замест бабулі, патрапіў у камеру гаўптвахты Гарадзенскага памежнага атрада, што на вуліцы Горкага.

Пра абвінавачванне ў спробе незаконнага пераходу мяжы, Саламянка даведаецца толькі праз дзесяць гадоў – з экспертных заключэнняў судовых псіхіятраў. А ў той час, яго цягам трох дзён, без тлумачэнняў, трымалі пад арыштам. Потым, праз паўтары месяцы, – на прымусовым лячэнні ў Гарадзенскім псіхіятрычным шпіталі. Памежнікі, відавочна, атрымалі інфармацыю пра «псіхічную хваробу». Атрымаўся рэцыдыў.

### Ліквідатар-інвалід

З гарадзенскага шпіталя Віктар вярнуўся ў Цхвін, дзе яго таксама накіравалі на прымусовае лячэнне. «Лячылі» больш чым паўгады. Пры гэтым, як адзначаецца ў дакументах (якія мае рэдакцыя), ва ўсіх псіхіятрычных установах пацыент паводзіў сябе адэкватна і за ім не заўважалася прыкметаў хваробы. Аднак савецкая псіхіятрыя, як вядома, была самай «гуманнай» у свеце. Таму, Віктару паставілі дыягназ: «Шызафрэнія, паранаідальная форма, параналяьны этап» і прысвоілі II-ю групу інваліднасці.

Пасля выпіскі ў 1986 годзе наш герой вырашыў вярнуцца да бабулі ў Навасёлкі – ужо на сталае месца жыхарства. Гэтым разам гарадзенскія памежнікі, на шчасце, не вызначыліся пільнасцю і пераезд адбыўся без эксцэсаў.

«Прыгоды» з войскам узнавіліся праз год. Саламянку выклікалі ў Гарадзенскі раённы ваенкамат і паведамілі, што ён прызываецца на вайсковыя зборы. Ані дэзерцірскае мінулае «партызана», ані II-я група інваліднасці не паўплывалі на рашэнне ваеннага камісара. Можа таму, што мэтай мабілізацыі была адпраўка людзей на ліквідацыю наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС і ваенны камісар палічыў, што менавіта псіхам там самае месца? Як бы там ні было – Віктар, разам з іншымі «партызанамі», больш месяца ліквідаваў наступствы тэхнагеннай катастрофы.

Толькі праз пятнаццаць гадоў Гарадзенскі абласны ваенны камісар І. Тустаў прызнае, што прызыў Віктара на ваенныя зборы ў 1987 годзе быў «неправамерны» і абвінаваціць у гэтым (каго б вы думалі?) самога Саламянку. «Неправомерному призыву способствовало сокрытие Вами при призыве своего заболевания и инвалидности,» – адкажа палкоўнік.

### Рэабілітацыя

Калі апісаць усе «прыгоды» Віктара Саламянкі ў якасці «псіхічна хворага», нам не хапіла б, напэўна, усёй газеты. У гэтай гісторыі былі і падазроныя крымінальныя справы і псіхіятрычныя стацыянары і шмат чаго іншага. Але, перанясемся ў 1995 год, у якім здарылася тое, пра што народная мудрасць кажа: «Не было шчасця, ды няшчасце дапамагло».

Са статусам «псіхічна хворага» шансы Віктара на добрае працаўладкаванне былі невялікія. Таму, каб зарабіць на жыццё, ён заняўся не зусім легальнай камерцыяй. Аднойчы, падчас перавозкі партыі тавара з Расеі, машыну *затрымалі* супрацоўнікі ДАІ. Паўстала небяспека, што «дашнікі», якія запісалі дадзеныя несапраўдных таварных дакументаў, паведамяць пра гэта следчым. Перад пагрозай доўгай адсідкі за эканамічнае злачынства, Віктар вырашыў здзейсніць, так бы мовіць, «глупы крымінал», каб мець магчымасць «закасіць» пад псіха. Дзеля гэтага ён скраў з вясковай сталоўкі некалькі пляшак спіртнога, трошкі прадуктаў і грошай. А на наступны дзень – даў сябе затрымаць, пасля чаго патрапіў у самую аўтарытэтную псіхіятрычную клініку краіны – «Навінкі». Аднак гэтым разам псіхіятры прыйшлі да высновы, што Саламянка не толькі ў час крадзяжу, але і ніколі перад гэтым не цярпеў на псіхічную хваробу. Заключэнне «Навінак» азначала псіхіятрычную рэабілітацыю Віктара. Яго знялі з дыспансернага ўліку, *адабралі* групу інваліднасці, прызналі здаровым і асудзілі, як нармальнага чалавека, на тры гады абмежавання волі («хіміі»).

Ці варта казаць, што наш герой быў усцешаны такім вердыктам. Нарэшце, пасля дзесяці гадоў прыніжэнняў і псіхіятрычнага пераследу, яго прызналі нармальным. Атрымаўшы поўную дзеяздольнасць (ужо пасля «хіміі») Віктар пачаў дасылаць запыты ў розныя ўстановы, каб даведацца пра тое, што (і галоўнае – чаму) з ім рабілі лекары на працягу дзесяці гадоў.

Сучасная беларуская рэчаіснасць аказалася аднак менш «руховай», чым можна было ўявіць. Пра абуральны адказ абласнога ваенкома мы ўжо ўзгадвалі. Не менш крываdушнымі аказаліся і лісты абласнога ўпраўлення аховы здароўя, а таксама – пракуратуры. З іх можна зразумець, быццам за тое, што адбылося з Віктарам Саламянкай у 1985 годзе і цягнулася праз дзесяць наступных год – ніхто, акрамя яго самога, не нясе адказнасці. Заканадаўства, тым часам, прадугледжвае выплату кампенсацыі грамадзянам, якія неабгрунтавана падвяргаліся турэмнаму зняволенню альбо прымусоваму псіхіятрычнаму лячэнню.

Дзеля таго, каб Віктару было лягчэй дамагчыся належнай яму кампенсацыі, мы завялі гэтую рэпарцёрскую справу і тэрмінова накіроўваем рэдакцыйныя запыты ва ўсе ўстановы, якія павінны яму ў гэтым дапамагчы.

**Рэпарцёры «Дня»**

* Прозвішча было зменена па этычным прычынам. Сапраўднае прозвішча героя публікацыі вядома рэдакцыі.

# 11 «П» клас гімназіі №2

**Упершыню акцыя «Наша Будучыня» вітае гімназістаў. Калі хто не ведае, гімназія №2 – гэта былая сярэдняя школа №14 з паглыбленым вывучэннем замежных моваў. А літара «П», якая «фірмуе» клас нашых сённяшніх гасцей, азначае, што яны, акрамя ангельскай ці нямецкай, вывучаюць яшчэ і польскую мову.**

**Для тых, хто чытае гэтую старонку ўпершыню, нагадаем, што мэтай акцыі «Наша будучыня» з'яўляецца абвяржэнне стэрэатыпнага ўспрыняцця маладога пакалення як абыякавага, ні да чаго не здольнага і пазбаўленага жыццёвых арыенціраў.**

**Калі Вы – вучань выпускнога класа і хочаце, каб мы расказалі пра Ваш клас, звяртайцеся да нас па тэлефоне:**

**72-29-96.**



***Першы рад знізу* (злева направа): Ірына Барысава, Аляксандра Капылец, Ірына Кузняцова, Юлія Півень, Ганна Заяц, Юлія Нарушэвіч. *Другі рад*: Аляксей Ускоў, Кірыл Лазавы, Ягор Дарашкевіч, Алег Жаваранак, Максім Савіч. *Трэці рад*: Павал Макей, Павал Сайчык, Сяргей Іваноў.**

**Ірына БАРЫСАВА**

Пачне прафесійную кар'еру пасля таго, як вывучыцца на перакладчыка-рэферэнта з веданнем замежных моваў. Можна пазайздросціць будучым працадаўцам Ірыны. Дзяўчына, у вольны ад заняткаў час, займаецца тэнісам і танцамі. Таму, яна зможа дастойна суправаджаць свайго боса не толькі на бізнесовых сустрэчах, але, таксама, на корце і падчас балаў. Сярод вядомых Ірыне людзей няма нікога, на каго яна хацела б быць падобнай.

**Аляксандра КАПЫЛЕЦ**

З дзяцінства марыць дапамагаць людзям. Таму ў дарослым жыцці дзяўчына хоча стаць стаматолагам. Ужо сёння, як будучы лекар, яна імкнецца адпавядаць прынцыпу, паводле якога эскулапы павінны самі вызначацца добрым здароўем. Дзеля гэтага Аляксандра займаецца спортам і рэгулярна наведвае фітнэс-зал. Найбольш аўтарытэтным чалавекам для дзяўчыны з'яўляецца яе мама, ад якой Аляксандра хоча навучыцца ўменню дасягаць пастаўленых мэтаў.

**Ірына КУЗНЯЦОВА**

Дзякуючы такім людзям , можна не сумнявацца ў лепшай будучыні нашай краіны. Дзяўчына кажа, што яна хоча стаць не проста эканамістам, а добрым эканамістам, «каб дапамагчы нашай эканоміцы і ўнесці свой уклад у развіццё дзяржавы». Свой вольны час, дарэчы, Ірына бавіць не менш амбітна. Яна слухае класічную музыку і паглыбляе свае матэматычныя веды. У людзях дзяўчына больш за ўсё цэніць сумленнасць і прыстойнасць.

**Юлія ПІВЕНЬ**

Вельмі таварыская дзяўчына. Яе цікавяць незвычайныя людзі, якія прыязджаюць з розных куткоў свету. Юлія выкарыстоўвае кожны зручны выпадак, каб паразмаўляць з імі, больш даведацца пра іх культуру і мову. Улічваючы такую цікаўнасць дзяўчыны, няма нічога дзіўнага ў тым, што яна хоча быць перакладчыкам. Пакуль жа, у вольны час, Юлія займаецца спортам. Чалавекам, з якога дзяўчына бярэ прыклад – яе стрыечны брат. Ягоныя найлепшыя якасці – упартасць і мэтанакіраванасць.

**Ганна ЗАЯЦ**

Марыць авалодаць, як мінімум, дзвюма, найбольш перспектыўнымі, на яе погляд, прафесіямі – эканаміста і перакладчыка з ангельскай мовы. Акрамя таго, Ганна не ўяўляе сабе, што ў сённяшнім свеце можна заставацца непісьменным у галіне кампутарных ведаў. Што ж тычыцца яе захапленняў, то гэта, найперш сучасная музыка, у якой Ганна аддае перавагу замежным выканаўцам. Акрамя таго, дзяўчына займаецца спортам. Але, ані музычныя, ані спартовыя зоркі не з'яўляюцца для Ганны, больш аўтарытэтнымі чым мама. «Гэта чулы і спагадлівы чалавек,» – кажа пра маму дачка.

**Юлія НАРУШЭВІЧ**

У сувязі з развіццём міжнародных адносінаў, а таксама – міжкультурных камунікацыяў, грамадства, на яе думку, будзе патрабаваць большай колькасці перакладчыкаў. І перадусім – з ангельскай мовы. З улікам гэтага , дзяўчына нават у вольны час рыхтуецца да авалодання прафесіяй перакладчыка-рэферэнта. Дзеля гэтага яна не проста пашырае свой запас ангельскай лексікі, але паглыблена вывучае культуру і гісторыю Англіі. Што тычыцца куміраў, Юлія іх не мае, таму што ў кожным чалавеку цэніць індывідуальнасць.

**Аляксей УСКОЎ**

Пасля гімназіі пачне грызці граніт юрыдычнай навукі. Незалежна ад таго, ці стане ён пасля гэтага следчым, абаронцам, суддзёй, а можа – прававым дарадцам фірмы, мы ўпэўненыя, што не пашкодзіць, калі хлопец перанясе ў дарослае жыццё свае сённяшнія захапленні – любоў да баскетболу і музыкі. А калі нават на ўсё не хопіць часу, нязменным застанецца адно: Аляксей, як і ягоны бацька, пры любых умовах будзе «сапраўдным мужыком».

**Кірыл ЛАЗАВЫ**

Хоча вывучыцца на перакладчыка-рэферэнта, таму што яму падабаецца размаўляць з рознымі людзьмі. Улічваючы тое, што будучая праца Кірыла будзе, хутчэй за ўсё, насычаная замежнымі падарожжамі – хлопец нездарма ўвесь свой вольны час прысвячае заняткам спортам. На пытанне: на каго ён хоча быць падобным, Кірыл адказаў: «Я не хачу быць нічыёй копіяй».

**Ягор ДАРАШКЕВІЧ**

Жаданне пазнаваць цікавых людзей, а таксама любоў да вывучэння моваў, прадвызначылі Ягораў выбар будучай прафесіі – перакладчык. Хлопец захапляецца музыкай, ігрой на гітары і фартэпіяна, і таму нам падаецца, што наўрад ці ён будзе спецыялізавацца ў перакладах тэхнічных, ці, скажам, медычных тэкстаў. Было б няблага, каб Ягор кангеніяльна пераклаў на родную мову, напрыклад, найлепшыя шэдэўры сусветнай літаратуры. Але, калі з яго атрымаецца добры перакладчык-рэферэнт – ніхто не пакрыўдзіцца. Галоўнае, каб Ягор заставаўся самім сабой.

**Алег ЖАВАРАНАК**

Паглядзіце на гэтага хлопца ўважліва. Не выключана, што перад намі будучы прэзідэнт Беларусі. Нягледзячы на тое, што вылучацца на гэтую пасаду Алег зможа не раней, чым гадоў праз сямнаццаць – ужо зараз ён лічыць, што ведае, як выцягнуць краіну з крызісу. У сваіх захапленнях, дарэчы, хлопец ні ў чым не саступае цяперашняму кіраўніку краіны. Ён таксама займаецца спортам, спявае песні і любіць музыку. Нікога, напэўна, не здзівіць, што чалавек з такімі амбіцыямі не хоча быць ні на каго падобным.

**Максім САВІЧ**

Лічыць, што на пачатку кар'еры, было б няблага папрацаваць эканамістам. Аднак у нашай краіне, на думку хлопца, эканамістаў і так зашмат. Таму, яму падаецца, што найлепшым выйсцем з сітуацыі, было б, у дадатак да эканомікі дасканала вывучыць ангельскую мову. Гэта дазволіць яму выехаць працаваць за мяжу. Захапленне ж Максіма кампутарам, на нашую думку, толькі наблізіць яго да пазначанай мэты. А калі хлопец яшчэ пераайме ад свайго бацькі энтузіязм і мэтанакіраванасць... Пажадаем жа Максіму: толькі вярніся!

**Павал МАКЕЙ**

Таксама як сябар, хоча стаць эканамістам, хаця і разумее, што гэтая прафесія ў сённяшняй Беларусі не вельмі запатрабаваная. Аднак Павал – аптыміст, таму верыць, што за рынкавай гаспадаркай – будучыня ягонай краіны. А добрых эканамістаў хутка будуць шукаць днём з агнём. Пакуль жа, свой вольны час Павал заўсёды можа правесці, гуляючы ў валейбол, ці слухаючы музыку. Прыкладам для Паўла з'яўляецца бацька, які велізарнымі намаганнямі змог усяго дасягнуць з нуля.

**Павал САЙЧЫК**

Пасля гімназіі вырашыў і надалей удасканальваць веданне ангельскай мовы ў адной з вышэйшых навучальных установаў. І, нягледзячы на тое, што нейкую канкрэтную прафесію Павал не абраў – яна напэўна будзе звязаная з веданнем замежнай мовы. Дарэчы, калі ўзяць пад увагу захапленне хлопца кампутарамі і кампутарнымі гульнямі, то можа ён знойдзе працу ў сферы высокіх тэхналогіяў? Павал не хоча быць ні на каго падобным, таму праз некалькі гадоў мы яго ні з кім не пераблытаем.

**Сяргей ІВАНОЎ**

Даведаўшыся пра Сяргея, наш рэдактар сказаў: «Калі яшчэ трапляюцца такія маладыя людзі, то канец свету прыйдзе ня хутка». Такая рэакцыя тлумачыцца тым, што ні ў адным з прэзентаваных намі дагэтуль класаў, не трапляліся будучыя святары. Таму Сяргей, які рыхтуецца да паступлення ў каталіцкую духоўную семінарыю, можна сказаць – піянер. Спадзяемся, што ў цяжкай місіі, якую вырашыў ускласці на сябе гэты хлопец, яго падтрымае захапленне выяўленчым мастацтвам, а таксама – любоў да музыкі і спеваў. На пытанне пра чалавека, на якога ён хоча быць падобным, Сяргей з хрысціянскай пакорай адказаў: «Хай мяне прымаюць такім, які я ёсць».

**Прапануем прыняць удзел у галасаванні на лепшы выпускны клас Гродна. Дзеля гэтага – запоўніце купон і дашліце яго на адрас: 230025 г. Гродна, вул. Карла Маркса, 11 (2-гі паверх).**

**КУПОН-ЛАТАРЭЯ**

**Акцыя «НАША БУДУЧЫНЯ»**

Мне найбольш спадабаўся клас ______ школы ______

Імя ______________ Прозвішча ______________

Мой кантактны тэл. ______________

Адрас: ______________

**Штомесяц сярод атрыманых купонаў мы будзем разыгрываць тры паўгадовыя падпіскі на нашу газету. Па выніках галасавання напярэдадні выпускных вечароў будзе вызначаны найлепшы клас горада, якому «День» прысвяціць галоўную тэму аднаго з чэрвеньскіх нумароў.**

**Давайце знаёміцца з нашай будучыняй РАЗАМ!**

# «Гарадзенскі каларыт» –

**менавіта пад такой назвай да паловы сакавіка працягнецца выстава сарака майстроў Наднёманскага краю ў Абласным навукова-метадычным цэнтры народнае творчасці.**

На экпазіцыі прадстаўлена 200 прац практычна ўсіх відаў выяўленчага мастацтва. Тут ёсць жывапіс Аляксандра Ларыёнава, Аляксея Лабура і Валянціны Брысач, кераміка Тацяны Шубінай і Тамары Трысмаковай, графіка Люмілы Тадарашкі, мастацкая вышыўка Аляўціны Кавалеўскай, капелюшы, маскі ды іншыя саламяныя рэчы Тамары Блудавай і Любові Блохавай...

*– Асаблівую цікавасць уяўляюць музычныя інструменты, зробленыя вядомым майстрам Мар'янам Скрамблевічам,* – паведаміла ДНЮ мастацтвазнаўца **Алена Храмкова**. *– Арыгінальна глядзіцца і дзейны металічны таршэр у выкананні каваля Алеся Вераб'ёва. Дарэчы, мясцоваму Таварыству майстроў народнае творчасці, якое ўзначальвае Валянціна Брысач, сёлета спаўняецца 12 гадоў.*

Зараз народныя майстры рыхтуюцца да традыцыйнай ярмаркі «Казюкі», што пройдзе ў Гродне чацвёртага сакавіка, а таксама да вялікай вялікоднай выставы, якую Абласны навукова-метадычны цэнтр па ініцыятыве Гарадзенскай праваслаўнай епархіі зладзіць у пачатку красавіка.

**Вацлаў ГАЛІМСКІ**

# Казка ажывае ў тэатры

**16 лютага ў Гродна завітаў аргкамітэт Маскоўскага міжнароднага тэлевізійна-тэатральнага фестываля «Ажыўшая казка», каб праглядзець і адабраць да ўдзелу ў гэтым прэстыжным фэсце дзіцячыя пастаноўкі мясцовых тэатраў.**

Як паведаміў карэспандэнту ДНЯ прэзідэнт фестываля Дзмітрый Уласаў, «Ажыўшая казка» існуе ўжо 12 гадоў, і ў прадстаўнічым форуме зазвычай удзельнічае каля 140 тэатраў з былых рэспублік СССР, у тым ліку 16 калектываў з Беларусі.

*-Я першы раз у Гродне,* – сказаў **Дзмітрый Уласаў** пасля прагляду ў Гарадзенскім тэатры лялек спектакля рэжысёра Алега Жугжды «Прыгажуня і пачвара». *– І прыемна ўражаны прыгажосцю вашага горада і высокай тутэйшай тэатральнай культурай. Сябры аргкамітэта вельмі задаволеныя спектаклем, і ён абавязкова мусіць удзельнічаць у фестывалі...*

Спадар Уласаў параўнаў гульню гарадзенскіх лялечнікаў з гульнёй у знакамітым маскоўкім тэатры Сяргея Абразцова, і сказаў, што спектакль «Прыгажуня і пачвара» будзе дастойна прадстаўляць не толькі Гродна, але і ўсю Беларусь на фестывалі «Ажыўшая казка», які пройдзе з 31 траўня па 7 чэрвеня ў Маскве. Пасля чаго журы назаве лаўрэатаў. Пераможцы атрымаюць не толькі сімвалічныя ўзнагароды, але і салідныя грашовыя прэміі.

**Людвік САРОКА**

## Перадузяты агляд прэсы

# Імператар Клаўдзій і святы Валянцін

*«Разумных бараноў наогул жа нямнога,*
*А гэты – дык дурней дурнога...»*

***Кандрат КРАПІВА***

**«Перадайце, калі ласка, спадару Свінтусу вось гэта» – сказаў адзін з чытачоў маёй рубрыкі, завітаўшы ў рэдакцыю. У руцэ ён трымаў афіцыйны дадатак да «Гродненской правды» з тэкстамі пастановаў абласнога Савета аб мясцовых падатках і зборах. Са словаў пісакаў «Дня», якія тэрмінова перадалі мне газету, я зразумеў, што чытача перш за ўсё ўсхвалявалі, апублікаваныя ў «ГП», памеры і колькасць мясцовых «пабораў». Але ў сухіх тэкстах афіцыйных дакументаў ён вычытаў і тое, што, на яго думку, магло б мяне зацікавіць.**

«Объектом налогообложения сбора является пересечение физическими лицами...» – прачытаў я падкрэслены асадкай фрагмент адной з інструкцыяў. Калі на здаровы свінскі розум, то дадзены сказ, сапраўды выглядае недарэчна. І калі б так напісаў «шчаўкапёр», то я б мог над ім, як кажуць маладыя, «пасцябацца». Аднак, у дадзеным выпадку, мы маем дачыненне з, так званай, «юрыдычнай мовай», якая кіруецца сваімі правіламі – не заўсёды зразумелымі для большасці з нас. Тым не менш, зварот чытача мяне ўзрадаваў. Перш за ўсё таму, што праца Свінтуса не праходзіць дарма, і людзі пачынаюць адносіцца да зместу газетаў больш крытычна. Акрамя таго, дзякуючы чытачу, я вырашыў праверыць, пра што яшчэ, акрамя афіцыйных дакументаў і справаздач, піша «Гродненская правда». Немудрагелісты эксперымент даў вельмі цікавыя вынікі. Ім і будзе прысвечаны мой сённяшні агляд.

***

Пачну з галоўнага. У той час, калі сусветная супольнасць уважліва назірае за спробамі медыкаў кланіраваць жывых істотаў і задаецца пытаннем: ці людзі ў белых халатах адважацца правесці эксперымент на чалавеку – у Гродне, на працягу апошніх гадоў, адбываюцца спробы кланавання двух папяровых выданняў – «Вечернего Гродно» і «Гродненской правды». З кожным чарговым нумарам вынікі выдавецкага эксперыменту становяцца больш і больш удалымі. Вось і на мінулым тыдні як «ВГ», так і «ГП» выпусцілі ў свет моладзевыя старонкі, на якіх галоўным матэрыялам аказаўся адзін і той жа тэкст, прысвечаны гісторыі святкавання Дня Святога Валянціна.

Моладзевыя «клоны» атрымаліся вельмі «ўдалымі». Пра гэта сведчыць тое, што ў іх паўтараюцца нават памылкі. Працытуем, дзеля прыклада, адзін з фрагментаў артыкулаў– «клонаў» (у дужках пазначым хібы, г. зн. – адрозненні «клона» «ГП» ад «клона» «ВГ». Апошняга возьмем за аснову):

*«(Правивший в то время) Римский император Клавдий считал, что семья мешает солдатам сражаться за империю, и издал указ, в котором запрещалось (запрещающий) воинам (военнослужащим), жениться, но (А римский) священник Валентин тайно (несмотря на указ) венчал (продолжал венчать) всех желающих, за что () был казнен 11 февраля (14 февраля) 273 года».*

Пачнем з таго, што святы Валянцін памёр не ў III, а ў IV стагоддзі. У тым самым, калі заходняй часткай Рымскай імперыі кіраваў імператар Валенцініан. У гэты час у Рыме сапраўды жыў чалавек, якога звалі ці то Клаўдзій, ці то Клаўдзіян, але ён быў не імператарам, а паэтам і да смерці святога Валянціна не меў аніякага дачынення. Што ж тычыцца абвінавачанага «ВГ» і «ГП» імператара Клаўдзія, то ён нарадзіўся ў 10 годзе да нашай эры. Вы, мае паважаныя, відаць разумееце, што ў гэты час не было не толькі будучага каталіцкага святога, але нават ягоных прадзедаў.



Усім жадаю кахання,

**Свінтус ГРАНДЫЁЗУС**

## Тэлефоннае апытанне гарадзенцаў

# «Ніякі» знак Задыяку

**Сярод прапанаваных Вамі тэмаў апытання, мы выбралі прапанову чытача Міхаіла Іванавіча: «Я заўважыў, што ў некаторых гараскопах дзень маіх народзінаў – 22 лістапада – не адносіцца ні да аднаго са знакаў Задыяку. Яго там проста няма. Мне, шчыра кажучы, усё роўна. Але, цікава: наколькі ўся гэтая забава ў астралагічныя прадказанні папулярная сярод гарадзенцаў?».**

Мы прагледзелі ўсе гарадзенскія газеты і пераканаліся, што Міхаіл Іванавіч мае рацыю. У некаторых гараскопах, «Скарпіён», сапраўды, заканчваецца 21 лістапада, а «Стралец» пачынаецца з 23-ага. У гараскопе «Дня» гэтая памылка таксама траплялася. Ва ўсіх «Скарпіёнаў», якія нарадзіліся 22 лістапада, просім прабачэння за недарэчнасць. А ў якасці кампенсацыі прапануем апытанне, у якім мы запыталіся гарадзенцаў:

«Ці супадаюць прадказанні гараскопаў з тым, што з Вамі адбываецца ў жыцці?»

**Супадаюць – 38 апытаных**

Больш, чым трэцяя частка нашых рэспандэнтаў паведаміла, што ўважліва чытае астралагічныя прадказанні, і яны супадаюць з падзеямі, якія адбываюцца ў іх жыцці. «Мы з сяброўкай (яна нарадзілася пад тым жа знакам, што і я) пайшлі на рынак і пабачылі бялізну, якая нам спадабалася. Але я памятала, што гараскоп не раіць купляць асабістыя рэчы ў гэты дзень і адмовілася ад пакупкі. Сяброўка ж – купіла. І з гэтай бялізнай у яе былі непрыемнасці,» – распавяла жанчына з-пад знаку «Казярога».

Больш сталая кабета («Баран») пра карысць гараскопаў выказалася так: «Я заўсёды веру гараскопам. Вось і ў гэтым месяцы мяне папярэджвалі, каб я *больш дбала пра здароўе. Але, не пабераглася*, таму і захварэла».

Сярод тых, хто верыць у гараскопы, перавагу складаюць жанчыны, незалежна ад узросту. Але, ёсць і іншыя заканамернасці. Вера ў гараскопы залежыць і ад таго, пад якім знакам Задыяка нарадзіўся той ці іншы чалавек **(глядзі графік)**. Значыцца дата нараджэння мае нейкае значэнне?

**Не супадаюць – 64 апытаных**

Можа гэта і не ўсцешыць астролагаў, але большасць людзей ставіцца да іх прадказанняў з недаверам. «Я з цікавасцю чытаю гараскопы, але не магу прыпомніць ніводнага выпадка, калі прадказанні ў адносінах да мяне спраўдзіліся,» – паведаміла дзяўчына з-пад знаку «Стралец».

Яшчэ больш катэгарычны аказаўся мужчына («Шалі»): «Усё гэта – лухта несусветная. На Зямлі некалькі мільярдаў людзей, а іх падзялілі толькі на дванаццаць знакаў...»

Найбольш абгрунтаванае, на наш погляд, тлумачэнне бессэнсоўнасці гараскопаў дала жанчына з-пад знаку «Блізняты»: «Ведаеце, вера ў нейкія астралагічныя прадказанні – гэта грэх для хрысціян. Я, напрыклад, веру ў Бога і ніякія гараскопы мне не патрэбныя».

**А. ПЫТАЛЬНІК**

### Ці верыце вы ў гараскопы?




## Памяці Аляксандра Міхальчыка



Памёр Аляксандр Аляксандравіч Міхальчык.

Крыўдна і балюча ўсведамляць гэта нам, яго сябрам і паплечнікам, знаёмым. Як старшыня Гарадзенскай гарадской арганізацыі грамадскага аб'яднання «БНФ «Адраджэнне» і Партыі БНФ, ён нядаўна праводзіў чарговае пасяджэнне Рады, дзяліўся задумкамі на гэты год. І вось сумная вестка...

Яго біяграфія змяшчаецца на сціплым аркушы паперы. Нарадзіўся 5 сакавіка 1942 года ў Берастаўіцкім раёне. Школа, армія, Кіеўскі тэхналагічны інстытут харчовай прамысловасці, праца галоўным інжынерам на прадпрыемствах народнай гаспадаркі.

Аднак гэтыя скупыя радкі не могуць перадаць цеплыню яго сэрца. Аляксандр Аляксандравіч душой хварэў за справядлівасць. Ён не мог прайсці паўз людскае гора. За дапамогай да яго звярталіся многія.

Шмат зроблена ім. Ён не саромеўся завітаць у кабінет дзяржаўнага чыноўніка, каб паспрабаваць вырашыць праблему, выказаць у вочы ўсё, што думае пра «вертыкаль» і яе палітыку.

Аляксандр Міхальчык быў чалавекам слова. Паабяцае – зробіць! Яго патрабавальная прынцыповасць дысцыплінавала, дазваляла прадумана і мэтанакіравана весці грамадскую работу. Невыпадкова ўвосень 2003 года ён быў пераабраны старшынём гарадской арганізацыі грамадскага аб'яднання «БНФ «Адраджэньне»...

Быў чалавек – і няма чалавека. Адны пакідаюць гэты свет бясследна, нібыта і не жылі. Іншыя надоўга застаюцца ў памяці. Пакуль будзем жывымі мы, будзе памяць і пра Аляксандра Аляксандравіча Міхальчыка. Ён не паспеў ажыццявіць усіх грамадскіх задумак. Гэта належыць зрабіць нам.

**Гарадзенская арганізацыя грамадскага аб'яднання «БНФ «Адраджэньне» і арганізацыя Партыі БНФ**

ДЕНЬ

Галоўны рэдактар **Мікола Маркевіч**
Рэдактар нумару **Павал Мажэйка**

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Рэгістрацыйны нумар 1587 ад 5.11.2003.
**Адрас рэдакцыі:** 220050, г. Мінск, вул. Інтэрнацыянальная, д. 16, пакой 226.
**Адрас для лістоў:** 230025 г. Гродна, вул. К.Маркса, 11
**Тэл.:** (0152) 72-29-96, (017) 206-55-08 **E-mail:** pagonia@promedia.by

Нумар газеты надрукаваны
на ФДУП «Смаленскі паліграфічны камбінат»,
214020, г. Смаленск, вул. Смальянінава, 1.
Наклад 5000 паасобнікаў. Замова № 8062
Аб'ём – чатыры ўмоўныя друкарскія аркушы.
Падпісаны да друку 18.02.2004 у 01:00.

Меркаванні аўтараў не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі.
Спасылка на «Дзень» пры перадруку абавязковая.